Viestki553.qxd 2/24/2012 1:02 AM Page 1 (3,1)




# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlenni**



Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, www.baza-belarus.org*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*



**№ 3 (553)**
**Сакавік 2012 г.**


## БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ Ў НЬЮ-ДЖЭРЗІ і БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗГУРТАВАНЬНЕ "ПАГОНЯ"



**запрашаюць на ўрачыстую акадэмію, банкет і канцэрт, прысьвечаныя 94-м угодкам**

**БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ,**

якія адбудуцца ў нядзелю **25 сакавіка 2012 году** а **12:30** гадзіне папаўдні ў гатэлі **Hyatt Regency** па адрасу: *2 Albany Street, New Brunswick, New Jersey 08901*.

Перад імпрэзаю а 10:00 адбудзецца набажэнства ў царкве сьв. Маці Божае Жыровіцкае БАПЦ па адрасу:

*9 River Road, Highland Park, New Jersey 08904.*

Квіткі па замове: **$55** дарослым, **$45** студэнтам. Квіткі пры дзьвярах: **$60** дарослым, **$55** студэнтам.

Просім замовіць квіткі да **18 сакавіка 2012 году**, даслаўшы аплату на адрас:

*Ivan Gryshkevich, 262 White Birch Rd., Edison, NJ 08837*

Чэкі выпісвайце на: ***Belarusan American Association***, пазначыўшы: "**tickets**".

Па дадатковую інфармацыі тэлефануйце **сп. Юрку Азарку** *(732)560-8610*, **сп. Віталю Зайку** *(718) 897-16846.*

*Даезд да месца сьвяткаваньня зь Нью-Ёрку аўтобусам ад **NY-NJ Port Authority Bus Terminal** (8th Ave at 41 St., New York, NY 10001) да гораду **New Brunswick**, прыпынак **Hyatt Regency**, ля самога гатэлю. Аўтобус адыходзіць кожныя паўгадзіны. Час у дарозе каля 50 хвілін.*

# Мітынг падтрымкі палітвязьняў

У суботу, 4 лютага, на Мангэтане прайшоў мітынг у падтрымку дзеячоў беларускай апазыцыі, што апынуліся за кратамі. Мітынг адбыўся на Першай Авэню ля гмаху штабкватэры Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. Удзельнікі мітынгу выказалі свой пратэст супраць перасьледу па сфабрыкаваных крымінальных абвінавачаньнях людзей, што ня згодныя з палітыкай рэжыму Лукашэнкі, і якія актыўна выступаюць супраць яго. На мітынг сабраліся беларусы Амэрыкі, пераважна моладзь, зь бел-чырвона-белымі нацыянальнымі сьцягамі, лёзунгамі супраць рэжыму Лукашэнкі і фотавыявамі палітзьняволеных.

***Заканчэньне на бачыне 3***




Фатаздымак Д. Дубарава.

# Лютаўскі сход Згуртаваньня “ПАГОНЯ”

У суботу 11-га лютага ў Доме Маракоў на Мангэтане адбыўся чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня Згуртаваньня Віталь Зайка коратка азнаёміў прысутных з падзеямі ў Беларусі і ў ЗША за апошні месяц, паінфармаваў пра акцыю Згуртаваньня сумесна з Беларускім Маладзёвым Рухам каля ААН 4-га лютага. Сп. Зайка таксама зьвязаў антыдэмакратычныя дзеяньні кіруючага рэжыму ў Беларусі і некаторыя праявы насьцярожваючых тэндэнцыяў да паступовага абмежаваньня дэмакратычных свабодаў у пэўных галінах грамадзкага жыцьця ЗША. Прамоўца заклікаў прысутных да ўзмацненьня салідарнасьці беларусаў і праз гэта да пашырэньня беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы.

Затым сябар управы Згуртаваньня “Пагоня” Яўген Барысевіч азнаёміў прысутных з вынікамі пісьмовага апытаньня, якое ён праводзіў на папярэднім студзеньскім сходзе. Сп. Барысевіч прааналізаваў адказы на пытаньні і выказаў ідэю стварыць адмысловыя групы людзей, што маюць супольныя зацікаўленьні і маглі б разам прыемна праводзіць час і брацца за цікавыя супольныя праекты. Сп. Барысевіч таксама адзначыў, што пры падтрымцы сяброў арганізацыі можна было б рэгулярна, кожны месяц, а пры патрэбе і часьцей, праводзіць разнастайныя грамадзка-палітычныя акцыі, мітынгі, пікеты. Ён заклікаў актыўней далучацца да працы Згуртаваньня, не саромецца паінфармаваць пра свае здольнасьці і таленты.

З слайд-прэзэнтацыяй сваіх карцінаў перад прысутнымі на сходзе выступіў малады мастак зь Беларусі Захар Кудзін. Ён прывёз у Амэрыку некаторыя свае творы і з ахвотаю прыняў запрашэньне выступіць перад землякамі на сходзе “Пагоні”. Сп. Кудзін скончыў Менскую мастацкую вучэльню імя Глебава (“Глебаўка”) і працуе ў галіне алейнага жывапісу ў стылі абстрактнага экспрэсіянізму. Стыль гэты ўзьнік у сярэдзіне 20 ст. у Амэрыцы пад уплывам сюррэалізму і мадэрнісцкіх рысаў. Сп. Кудзін назваў земляка Хаіма Суціна ў ліку мастакоў, чыя творчасьць яму асабліва блізкая. Праз камбінацыі колераў і негеамэтрычных формаў мастак раскрывае сваё сьветаўспрыняцьце, на якое аказваюць ўплыў розныя чыньнікі, у тым ліку палітычныя падзеі ў Беларусі, у некаторых зь якіх мастак браў асабісты ўдзел.



*Захар Кудзін.*

На Бацькаўшчыне мастак браў удзел у шматлікіх выставах, у тым ліку правёў асабістую выставу ў Музэі М. Багдановіча ў Менску ў 2009 г. Прысутныя зь цікавасьцю слухалі мастака і прагледзелі анталёгію ягоных твораў. Асаблівую ўвагу выклікалі такія карціны, як “Чалавек зь люлькай”, “Кабета і дзіця”. Мастак адказаў на пытаньні прысутных; завязалася нязмушаная дыскусія пра ролю мастака ў грамадзкім жыцьці. Сп. Захару Кудзіну было прапанавана падтрымліваць далейшыя кантакты, з тым каб дапамагчы ў арганізацыі выставаў і сустрэчаў.

Напрыканцы сходу прагучэлі аб’явы і паведамленьні і адбыліся знаёмствы з гасьцямі Згуртаваньня.

**Віталь ЗАЙКА**

*На здымках ніжэй карціны З. Кудзіна.*





Viestki553.qxd 2/24/2012 1:02 AM Page 3 (3,1)



# Падсумаваньне вынікаў апытаньня

Вось ужо на двух апошніх сходах Згуртаваньня "Пагоня" прысутныя сябры старанна запаўнялі анкету-апытальнік. Усё дзеля таго, каб больш даведацца аб нашых сябрах: адкуль, дзе вучыліся, што іх цікавіць, і як яны ставяцца да ўсталяванага фармату нашых рэгулярных сходаў. Таксама вельмі важную частку анкеты займала пытаньне аб тым, як сябры асабіста могуць дапамагчы развіцьцю нашай супольнасці, і што б яны хацелі зьмяніць, каб зрабіць нашыя сходы цікавейшымі для кожнага зь іх. Мы прааналізавалі ўсе адказы і пажаданьні сяброў нашай арганізацыі. Сярод іх было мноства цікавых і ўнікальных ідэяў, але таксама прасочваліся і аднолькавыя тэндэнцыі. Нягледзячы на тое, што ў апытаньні ўзялі ўдзел толькі 67 сяброў, іншымі словамі, толькі невялікая частка нашай арганізацыі, нават гэтая колькасьць адказаў дазволіла нам зрабіць адпаведныя высновы і пачаць вырашаць узьнятыя пытаньні.

Так, напрыклад, высьветлілася, што большасьць адказаў на пытаньне, якое датычылася прапанаваў наконт зьмены ці паляпшэньня нашых сходаў былі за тое, каб яны праводзіліся ў больш нефармальных абставінах. Таксама шмат хто выказаўся за тое, каб часьцей зьбірацца, напрыклад, 2-3 разы на месяц у розны час (раніцаю ці ўдзень) і ня толькі ў нашым звычайным месцы ў Міжнародным Доме Маракоў на Мангэтане, але і , калі дазваляе надвор'е, дзе-небудзь на прыродзе, тым самым здымаючы пячатку 'афіцыйнасьці і фармалізму і спрыяючы

*Заканчэньне на бачыне 4*

## Мітынг салідарнасьці

*Заканчэньне з бачыны 1*

Напачатку мітынгу выступіў старшыня Беларускага Маладзёвага Руху Амэрыкі, сябар Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью-Джэрзі Алесь Вінакураў. Ён адзначыў, што палітычныя зьняволеныя ў Беларусі церпяць ад зьдзекаў і прыніжэньняў збоку рэжыму. Мікола Статкевіч, Андрэй Саньнікаў, Алесь Бяляцкі, Мікола Аўтуховіч, Зьміцер Дашкевіч, Павал Севярынец, Сяргей Каваленка, Зьміцер Бандарэнка, Эдуард Лобаў ды іншыя перасьледуюцца за свае палітычныя пагляды і незаконна знаходзяцца за кратамі. Сп. Вінакураў таксама падкрэсьліў, што сямёра зь дзесяці кандыдатаў у прэзыдэнты, што падпалі пад рэпрэсіі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2010 г. у Беларусі, гэта вельмі сумны рэкорд, асабліва для краіны, што знаходзіцца ў Эўропе. Цяпер зьдзек працягваецца праз шантаж і ціск для таго, каб зьняволеныя пісалі прыніжаючыя годнасьць лісты да Лукашэнкі аб "памілаваньні". Таму беларусы павінныя не маўчаць, а яднацца і выступаць супраць антынацыянальнага, антыдэмакратычнага рэжыму.

Затым слова ўзяў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" Віталь Зайка. Ён адзначыў узмацненьне перасьледу апазыцыйных дзеячоў Беларусі і падкрэсьліў неабходнасьць падтрымкі людзей, што апынуліся за кратамі, і якія церпяць ад несправядлівасьці і зьдзекаў. Прамоўца нагадаў, што менавіта беларусы мусяць быць першымі ў падтрымцы землякоў на Бацькаўшчыне, якія апынуліся пад прэсам усёй моцы рэжыму. І беларусы Амэрыкі павінныя прыкласьці ўсе намаганьні дзеля таго, каб сытуацыя зь беларускімі палітвязьнямі стала лепш вядомаю для афіцыйных уладаў і людзей добрай волі ў Амэрыцы і ў сьвеце.

Сп. Зайка адзначыў, што цяперашняя адміністрацыя прэзыдэнта Абамы робіць у дачыненьні да правоў чалавека і падтрымкі дэмакратыі ў Беларусі вельмі няшмат у параўнаньні да папярэдняй адміністрацыі. Нажаль, за падзеямі так званай "арабскай вясны", пагаршэньнем эканамічнай сытуацыі, перадвыбарчымі клопатамі прэзыдэнт і ягонае атачэньне надаюць нулявую ўвагу краіне ў Эўропе, што вось ужо 18-ы год усё глыбей патанае ў віры аўтарытарызму з элемэнтамі старой савецкай таталітарнай практыкі. Значна болей робіць Кангрэс Злучаных Штатаў, што нядаўна працягнуў і пашырыў Акт аб дэмакратыі ў Беларусі. Але гэтага відавочна недастаткова. Прамоўца заклікаў прысутных падтрымаць змаганьне за дэмакратыю ў Беларусі і актыўней далучацца да дзейнасьці беларускіх арганізацыяў у ЗША, якія выступаюць за свабоду і дэмакратыю ў Беларусі.

Сябар управы Згуртаваньня "Пагоня" і сябар беларускага Маладзёвага Руху Амэрыкі Яўген Барысевіч прачытаў пангельску тэксты зваротаў да прэзыдэнта ЗША Барака Абамы і да дзяржсакратара ЗША Гілары Клінтан. Звароты былі падтрыманыя ўсімі ўдзельнікі мітынгу. Перад прысутнымі выступіў таксама каардынатар Беларускага Маладзёвага Руху Амэрыкі Дзяніс Талпека. Ён адзначыў важнасьць маральнай падтрымкі для людзей, што знаходзяцца за кратамі – менавіта гэта дае ім моцы вытрываць пагрозы і ціск. Сп. Талпека падкрэсьліў, што несправядлівасьць у дачыненьні да палітвязьняў ёсьць толькі малою часткаю ўсіх несправядлівасьцяў у дачыненьні да грамадзянаў, якія ўчыняе штодня рэжым Лукашэнкі. Важна тлумачыць неабходнасьць і непазьбежнасьць павагі да правоў чалавека і грамадзяніна, інфармаваць і адукоўваць людзей.



*Фатаздымак Д. Дубарава.*

Прысутныя скандавалі лёзунгі па-беларуску і па-ангельску "Жыве Беларусь!", "Далоў дыктатуру!", "Беларусь – ТАК! Лукашэнка – НЕ!", "Свабоду палітвязьням!". Пад канец мітынгу прагучэлі беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" і "Пагоня" на словы М. Багдановіча.

**Віталь ЗАЙКА**

Viestki553.qxd 2/24/2012 1:11 AM Page 1 (1,1)



# Вынікі апытаньняў

***Заканчэньне з бачыны 3***

бліжэйшаму знаёмству паміж сябрамі Згуртаваньня. У дадатак, кожны ўдзельнік апытаньня выказаў зацікаўленасьць у сумесных вандроўках, наведваньнях выставаў, музэяў, тэатраў і памятных мясьцінаў, звязаных зь дзейнасьцю беларусаў у Амэрыцы.

Невыпадкова, у адпаведнасьці з галоўнымі мэтамі нашай суполкі – падтрымка дэмакратыі й правоў чалавека ў Беларусі, інфармаваньне амэрыканскай грамадзкасьці і амэрыканскіх афіцыйных уладаў пра сучаснае становішча ў Беларусі – большасьць выказалася за тое, каб часьцей праводзіць мітынгі супраць дыктатарскага рэжыму ў Беларусі і актыўней выказваць нашу падтрымку ўсталяваньню дэмакратыі ў Беларусі.

У той жа час, некаторыя сябры лічаць, што падчас нашых сходаў мы павінны зьвяртаць увагу ня толькі на сучасныя палітычныя падзеі ў Беларусі і іхны аналіз, але і адводзіць больш часу на знаёмства з культурным багацьцем нашай Бацькаўшчыны. Найчасьцейшымі былі прапановы сумеснага прагляду дакумэнтальных стужак беларускіх рэжысэраў, а таксама запрашэньне музыкаў, сьпевакоў і мастакоў на нашыя сходы, каб зрабіць іхны прабег цікавейшым і больш разнастайным.

Адказваючы на пытаньне аб сацыяльных сетках, амаль 90% сяброў напісалі, што карыстаюцца Фэйсбукам (Facebook), 67% Укантакце (Vkontakte) і Фэйсбукам адначасова, 4% карыстаюцца іншымі плятформамі ці не карыстаюцца сацыяльнымі сеткамі ў інтэрнэце ўвогуле. Як паказвае практыка, знаходзячыся ў ЗША, большасьць пераходзіць на Фэйсбук, таму там была створаная афіцыйная суполка пад назваю Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне "Пагоня", далучацца да якой мы запрашаем усіх жадаючых абмяркоўваць любыя прапановы і падзеі ці ствараць ініцыятыўныя групы.

Ну і напрыканцы, трохі сухіх дадзеных:

- 55% апытаных жывуць/працуюць у Брукліне, 21% у Нью-Ёрку, астатнія 24% жывуць/працуюць перавжна ў Нью-Джэрзі ці Філядэльфіі, але ёсьць і сябры з Чыкага і нават Маямі;
- 41% апытаных паведамілі што ў Беларусі жылі ў Менску, аднолькава па 8% жылі ў Горадні і Віцебску, астатнія 41% жылі ў іншых гарадох Беларусі;
- студэнты Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту склалі большасьць апытаных – 24%, наступнымі былі студэнты Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўнівэрсытэту і Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўнівэрсытэту – па 11% адпаведна, трэцімі па колькасьці ёсьць студэнты Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўнівэрсытэту з 9% .

Апытаньне дазволіла нам зрабіць адпаведныя высновы і пачаць вырашаць пытаньні ўзьнятыя нашымі сябрамі. Так, у адказ на жаданьне праводзіць больш мітынгаў, 4-га лютага ў Нью-Ёрку адбылася акцыя ў падтрымку палітвязьняў Беларусі, зладжаная нашым Згуртаваньнем сумесна зь сябрамі Беларускага Маладзёвага Руху. Каля штаб-кватэры ААН сабралася каля сотні ўдзельнікаў, каб прадэманстраваць свае стаўленьне да таго, што адбываецца ў Беларусі.

Падчас апошняга сходу малады беларускі мастак Захар Кудзін пазнаёміў прысутных са сваімі працамі ў стылі абстрактнага экспрэсіянізму. А на наступны сход запланаваная панэль-дыскусія па пытаньнях навучаньня ў амэрыканскіх вышэйшых навучальных установах, дзе ўсе жадаючыя змогуць атрымаць адказы на турбуючыя іх пытаньні.

У будучыні, мы будзем прыкладаць усе намаганьні, каб нашыя сходы былі цікавейшымі, інтэрактыўнымі. А каб хутчэй гэтага дасягнуць, нам таксама спатрэбіцца дапамога і падтрымка ўсіх сяброў нашай арганізацыі.

***Яўген БАРЫСЕВІЧ***

### Уплаты ў арганізацыю Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

А. Бабкоў ....................50
Я. Васілеўская ...............50
К. Горба ......................50
В. Едзіновіч ..................50
А. Жулідаў ....................50
М. Кашчэева ..................50
М. Клюева ....................50
П. Куржалаў ..................50
Д. Лебядзеў ..................50
К. Пугачова ..................50
А. Пяткевіч ...................50
Н. Шчэрбач ..................50
Я. Яскавец ....................50

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя**
*Valentina Balashchenko.*

*Паважаныя* ***В. Бандарэнка, А. Батурын, Г. Дзімітрава-Скачко, М. Федасеева, Я. Цішкевіч, А. Фішчук,*** *паведаміце, калі ласка, рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

# Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "ПАГОНЯ"** адбудзецца **ў суботу 10-га сакавіка 2012 году** на Мангэтане**.**

Месца правядзеньня сходу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі* ***L, N, Q, R, W, 4, 5, 6*** *да станцыі падземкі* ***Union Square****.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад Union Square па 15-й вуліцы на скрыжаваньні з Irving Place.*

***Заля знаходзіцца на другім паверсе будынка.***

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, лджаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку* ***www.baza-belarus.org***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня Âåñòê³ é Ïàâåäàìëåíüí³ :

Г. Аўсейчык ..................40
А. Бабкоў .....................30
Я. Васілеўская ...............30
К. Горба ......................30
С. і Н. Дудар ..................30
В. Едзіновіч ..................30
А. Жулідаў ....................30
М. Кашчэева ..................30
А. Копат ......................30
А. і М. Кузьміч ...............30
Д. Лебедзеў ...................30
В. Прысмыцкая ...............30
К. Пугачова ...................30
А. Пяткевіч ....................30
М. Уласава ....................30
А. Шастапалава ...............30
Н. Шчэрбач ...................30
Я. Яскавец .....................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***P. O. Box 572, New York, NY 10113***
*Чэкі з адзнакай* ***"Весткі"*** *выпісвайце на імя* ***Valentina Balashchenko****.*
*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы сайт* ***www.e-krama.com***